№ 5 (150)

# ПАХОДНЯ

*Грамадска-палітычная газета*

Чэрвень 2013 г.

## КАЛОНКА НАВІН

### У краіне

**Ад 1 чэрвеня павялічылісь тарыфы на электраэнергію для насельніцтва на 16%.**

Такое рашэнне прынятае пастановай Савета міністраў №428 ад 30 траўня 2013 года.

Паводле дакумента, электрычная энергія ў жылых дамах і кватэрах, абсталяваных электраплітамі, па аднаставачным тарыфе з 1 чэрвеня будзе каштаваць 375,9 рубля за 1 квт/гадзіну (цяпер — 324,9 рубля за 1 квт/гадзіну). Па дыферэнцыяваным тарыфе давядзецца плаціць 263,1 рубля за 1 квт/гадзіну ў перыяд мінімальных нагрузак з 22-й да 17-й (цяпер — 227,4 рубля) і 751,8 рубля за 1 квт/гадзіну ў перыяд максімальных нагрузак з 17-й да 22-й (цяпер — 649,8 рубля), інфармуе БЕЛТА.

### У Прыдняпроўі

**Средняя зарплата могилевчан в апреле составила 500 долларов.**

Согласно данным Национального статистического комитета Республики Беларусь, средняя зарплата белорусов в апреле составила 4 888 296 белорусских рублей (порядка 562 долларов в эквиваленте). Показатели по Могилёвской области чуть ниже общереспубликанских: жители нашего региона в апреле заработали в среднем по 4 333 500 белорусских рублей, что как раз и составляет обещанные президентом и правительством 500 американских долларов. По сравнению с данными прошлого года в белорусских рублях зарплата выросла на 121,1%, радостно констатирует статистика.

### У раёне

**Россияне воруют в Белыничах велосипеды.**

27 мая СК возбуждено у/д по ст. 205 ч. 1 УК (Кража) в отношении неработающего несудимого жителя ст. Семлево Смоленской области 1984 г.р., который 27 мая в 15-00 от дома по ул. Калинина в г.п. Белыничи похитил оставленный без присмотра велосипед у местного жителя 1978 г.р. Задержан в порядке ст. 108 УПК. Похищенное изъято, сообщает uvd.mogilev.by.

# ВАЛЕРЫЙ ВУСІК ПРАЦЯГВАЕ ЗМАГАЦЦА ЗА СПРАВЯДЛІВАСЦЬ

***23 траўня грамадскі актывіст з вёскі Лебедзянка Валерый Вусік накіраваў заяву на імя начальніка Бялыніцкага РАУС пакоўніка Юрыя Сіманава, у якой ён просіць праверыць законнасць дзеянняў адміністрацыі СВК "Лебедзянка" пры перадачы зямлі СФГ "Паўлінка".***

МІНІСТЭРСТВА ЎНУТРАНЫХ СПРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
УПРАЎЛЕННЕ ЎНУТРАНЫХ СПРАЎ МАГІЛЕЎСКАГА АБЛВЫКАНКАМА
АДДЗЕЛ УНУТРАНЫХ СПРАЎ БЯЛЫНІЦКАГА РАЙВЫКАНКАМА
вул. Мічурына, д. 13, 213051, г.п. Бялынічы, Магілеўскай вобл.
тэл./факс (02232)51940

МИНИСТЕРСТВО ВНУТРЕННИХ ДЕЛ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
УПРАВЛЕНИЕ ВНУТРЕННИХ ДЕЛ МОГИЛЕВСКОГО ОБЛИСПОЛКОМА
ОТДЕЛ ВНУТРЕННИХ ДЕЛ БЕЛЫНИЧСКОГО РАЙИСПОЛКОМА
ул. Мичурина, 13, 213051, г. п. Белыничи, Могилевской обл.
тел./факс 8(02232)51940

28.05.2013 № 1617

Вусику В.Д.
д. Лебедянка Белыничского района

Уважаемый Валерий Демидович!

Сообщаю, что Ваше заявление по факту причинения ущерба СПК «Лебедянка» Белыничского района в результате передачи части сельхозугодий указанного кооператива в пользование КФХ «Павлинка» от 23.05.2013 зарегистрировано в ЕК Белыничского РОВД за № 1134 и приобщено к материалам проверки по данному факту проводимой ГБЭП Белыничского РОВД ( ЕК № 679 от 1.04.2013 года).

Для принятия решения по материалу проверки необходимо проведение дополнительных проверочных мероприятий, в связи с чем, срок проведения проверки на основании ст. 173 ч.4 УПК Республики Беларусь продлен до трех месяцев по 1.07.2013 года.

О результатах проверки и принятом решении будет сообщено в Ваш адрес.

Начальник отдела внутренних дел
Белыничского райисполкома
полковник милиции Ю.П.Симонов

исп.Дроздов 51-852
А.М.280513 года

"Я прашу начальніка міліцыі правесці праверку законнасці перадачы зямлі СВК "Лебедзянка" фермерскай гаспадарцы "Паўлінка", - распавядае Валерый Вусік. – У сваёй заяве напісаў пра тое, што, выкарыстоўваючы сваю службовую пасаду, старшыня СВК "Лебедзянка" Бялоў П. М. склаў ілжывае рашэнне агульнага сходу членаў СВК "Лебедзянка" аб перадачы ужо засеянага рапсам кавалка зямлі плошчай 52 га гэтай гаспадарцы. Між тым ніякага агульнага сходу працаўнікоў СВК не было і ніякага агульнага рашэння членаў СВК, як гэта прадугледжана статутам кааператыва, не прымалась, гэта я магу сцвярджаць адназначна. Сваю заяву я перадаў оперупаўнаважанаму АБЭЗ маёру А. Драздову. Ён паабяцаў уважліва праверыць выкладзены ў заяве факты".

Днямі былы дэпутат Бялыніцкага райсавета Валерый Вусік атрымаў адказ ад палкоўніка Юрыя Сіманава, у якім той паведамляе, што заява Валерыя Дзямідавіча зарэгістраваная і зараз па факту перадачы зямлі СВК "Лебедзянка" у карыстанне СФК "Паўлінка" супрацоўнікамі ГБЭЗ Бялыніцкага РАУС праводзіцца праверка. Тэрмін правядзення праверкі павінен скончыцца 1 ліпеня,

*(Заканчэнне на стар.8)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# АЛЕГ МЯЦЕЛІЦА: «У ЛІТВЕ ЛЯГЧЭЙ ВЫЖЫВАЦЬ, ЧЫМ У БЕЛАРУСІ»

***Вядомы грамадскі актывіст з Бялыніч Алег Мяцеліца ў мінулым месяцы вярнуўся на радзіму ў родны гарадскі пасёлак пасля амаль двух з паловай гадоў пражывання ў суседняй Літве. Па словах Алега, шмат хто з землякоў пытаецца, як яму жылося на чужыне, чаму ён вырашыў вярнуцца на радзіму ў Беларусь, як жывуць зараз людзі ў Літве. Каб даць адказ на ўсе гэтыя пытанні, мы друкуем інтэрв'ю Алега Мяцеліцы, якое ён даў у Вільні напярэдадні ад'езду на радзіму журналістцы газеты "Салідарнасць" Таццяне Гусевай.***



*Алег Мяцеліца*

Два гады таму, пасля прэзідэнцкіх выбараў, мы сустрэліся ў Вільні з Алегам Мяцеліцам, даверанай асобай Уладзіміра Някляева. Ён запэўніў, што не збіраецца прасіць палітычнага прытулку. Але і па сённяшні дзень на радзіму Алег не вярнуўся.

У інтэрв'ю «Салідарнасці» Мяцеліца распавёў, на якіх умовах жыве ў Літве, што лічыць галоўнай памылкай 19 снежня, і чаму апазіцыйная дзейнасць, на яго думку, не праца.

– Алег, патлумач, чаму ты не вярнуўся на радзіму пасля таго, як прайшлі суды па "справе 19 снежня"?

– Першае – я не ведаю, ці зачынілі справу. Напэўна, лепш сказаць, што больш нікога не арыштоўваюць па гэтай справе.

Я размаўляў з юрыстамі і праваабаронцамі, якія сказалі, што па гэтай справе праходзіць каля 150 чалавек. Асуджана было нашмат меней. І невядома, хто ў ліку неасуджаных.

Па-другое, у Беларусі для таго, каб арыштаваць чалавека, не патрэбна ніякай крымінальнай справы. Яе ў любы момант можна завесці, і не абавязкова ў сувязі з падзеямі 19-га снежня. Калі чалавек лічыцца небяспечным для гэтага рэжыму, то яго вельмі лёгка схаваць за краты.

А па трэцяе, я збіраюся дадому ў любым выпадку.

…Знаходзячыся ў Вільні, мы на месцы не сядзелі, стварылі арганізацыю – Грамадзянскае і палітычнае прадстаўніцтва Беларусі (ці як мы яе называем Беларускі дом). Для мяне вельмі важна, каб пасля ад'езду яе дзейнасць працягвалася.

У мяне няма планаў заставацца за мяжой. Я аптыміст, і веру, што хутка ўсё зменіцца, і шмат людзей будуць вяртацца на Беларусь. Вясна ўсё роўна прыйдзе!

– Два гады таму ты гаварыў, што не збіраешся набываць статус палітуцекача. На якіх умовах ты жывеш у Вільні цягам двух год?

– У мяне няма статуса палітычнага ўцекача, а ёсць від на жыхарства. Падкрэслю, гэта не палітычны прытулак.

Нашай мэтай не было скарыстацца сітуацыяй і з'ехаць з Беларусі. Калі мы сюды прыехалі, ніхто не ведаў наколькі. Мы не прасілі палітычнага прытулку, бо нікога ў галаве не было заставацца тут надоўга.

Браць палітычны прытулак – гэта самы, напэўна, горшы варыянт. Таму што гэта цябе абмяжоўвае ў вяртанні на Беларусь, калі з'явіцца такая магчымасць. Ёсць шмат іншых спосабаў легальна знаходзіцца за мяжой. Калі скончыўся тэрмін дзеяння шэнгена, нам пайшлі насустрач і зрабілі нацыянальныя літоўскія візы. Атрымаць від на жыхарства няцяжка: проста трэба знайсці працу.

– Што ты лічыш галоўным дасягненнем вашай дзейнасці ў Вільні? Ты ж працуеш з людзьмі не толькі з кампаніі «Гавары праўду!».

– Беларускі дом мы стварылі супольнымі намаганнямі з людзьмі, якія працавалі ў камандах Саннікава, Міхалевіча, Рымашэўскага, Раманчука.

Мы – адна з арганізацый, якая займаецца беларускім пытаннем. Чым можам, стараемся дапамагаць беларускім структурам, арганізоўваючы мерапрыемствы, дзе могуць набыць веды прадстаўнікі дэмакратычнай супольнасці, дапамагаем наладзіць сустрэчы.

Арганізоўваючы летась беларускі тыдзень да Дня волі, мы запрасілі да сябе прадстаўнікоў усіх беларускіх арганізацый у Вільні, нават тых, хто паміж сабой няздольны быў дамаўляцца, і ніколі б не сеў разам за стол. Наша пляцоўка была нейтральнай. Мы прынцыпова не займалі нічыю пазіцыю, а казалі, што мусім нейкія рэчы рабіць разам.

У выніку мерапрыемства прайшло вельмі добра, дзякуючы супольнай працы ўсіх арганізацый.

– У цябе быў час пераасэнсаваць падзеі 19 снежня. Што ты лічыш асноўнай памылкай, якую апазіцыя зрабіла ў той час? Што стала для цябе ўрокам?

– Я не магу думаць пра нейкія памылкі, якія мы зрабілі. Усё як было, так і застаецца. І зараз ніхто не ведае, як дзейнічаць у сітуацыі 2015 года. Таму што, напэўна, ніхто так да канца і не зразумеў, якія былі зробленыя памылкі.

Шмат было спрэчных момантаў. Спачатку ўсе казалі пра адзінага кандыдата. Потым на нейкім этапе гаварылі: «Класна, што іх шмат».

Так, мы не маглі дамовіцца. А ці магчыма гэта было зрабіць? Хутчэй гэта была не памылка, а збег абставінаў на той момант. І зараз ніхто не можа сесці за адзін стол і сказаць, ці будзе адзіны кандыдат, ці выходзіць на Плошчу і як сябе на ёй паводзіць.

Я думаю, што ў 2010 годзе ўсе зрабілі роўна столькі, колькі магчыма. У нашай кампаніі «Гавары праўду!» мы выкладаліся на сто адсоткаў. Гэта была напружаная праца. Мы яе рабілі шчыра і верылі ў тое, што робім, верылі ў змены.

*(Працяг на стар. 3)*

# АЛЕГ МЯЦЕЛІЦА: «У ЛІТВЕ ЛЯГЧЭЙ ВЫЖЫВАЦЬ, ЧЫМ У БЕЛАРУСІ»

*(Працяг. Пач. на стар. 2)*

…Жорсткі разгон Плошчы змяніў развіццё падзей, па-іншаму скіраваў адносіны паміж Еўрасаюзам і Беларуссю. І ўвогуле грамадства па-іншаму пачало глядзець на сітуацыю ў краіне.

Я ні пра што не шкадую, і калі б я апынуўся ў 2010-м, я быў бы ў кампаніі «Гавары праўду!», маім кандыдатам стаў бы Уладзімір Някляеў, і я рабіў бы тое ж, што і тады. Але наперадзе іншыя кампаніі. І як яны будуць развівацца – ніхто не можа сказаць.

– Ці салодкае жыццё палітэмігранта? Некаторыя лічаць, што вы як сыр у масле катаецеся за еўрасаюзаўскія грошы.

– Той, хто хацеў скарыстацца сітуацыяй, паехаў не ў Літву. Чалавек даведваецца, дзе ёсць ільготы, грошы на кватэру, дапамога. Таму едуць у Нямеччыну, Бельгію, Швецыю, Данію – у краіны з моцнай сацыяльнай падтрымкай.

Па-другое, калі б я хацеў скарыстацца сітуацыяй, не займаўся б беларускай справай. Я думаў бы, як вывучыць мову, адкрыць свой бізнес.

Мы не можам назваць тое, што мы робім у Беларускім доме, працай, – гэта дзейнасць. Гранты на нейкія праекты – гэта не тыя грошы, на якія можна бязбедна жыць. Трэба здымаць кватэру, набываць сабе рэчы, харчавацца – ніхто табе гэты грошы не прынясе як ахвяры рэжыма.Таму летам мы працавалі на будоўлі.

У любым выпадку жыццё ўва ўсіх, хто з'язджае, няпростае.

У Вільні добра хаця б з тае прычыны, што ты кожны дзень сустракаеш людзей з Беларусі і знаёмых, якія сюды прыязджаюць. Тут ёсць нашыя арганізацыі, і ты не адчуваеш сябе настолькі адарваным ад радзімы.

Родныя прыязджаюць раз на два месяцы. З жонкай мы больш за дваццаць гадоў ў шлюбе. Мы сапраўды родныя людзі і можам разлічваць на падтрымку адзін аднаго. Сын жыве з ёй, а дачка, якая вучыцца ў ЕГУ, разам са мной, у Вільні.




Прыязджалі да мяне і бацькі. За гэта трэба падзякаваць міністэрству замежных спраў Літвы і літоўскай амбасадзе ў Менску за візавую падтрымку. Бабуля – ёй 93 гады – кажа: «Не памру, пакуль не прыедзеш, унучак!». Размаўляем з ёй па скайпе.

– Пасля аперацыі на хрыбетніку ў цябе статус беспрацоўнага. Ці адпраўляюць у Вільні беспрацоўных працаваць на карысць дзяржавы, напрыклад, камяні збіраць?

– Я не валодаю ўсёй інфармацыяй, таму буду казаць толькі пра тое, што ведаю. Калі становішся на біржу, на працягу года цябе не могуць да такіх прац прыцягваць.

Беспрацоўны абавязаны раз на месяц прыходзіць да свайго агента. У адрозненне ад Беларусі, тут табе шчыра імкнуцца дапамагчы знайсці працу. Зразумела, як і ва ўсім свеце, некаторыя людзі хочуць мець грошы, а пры гэтым нічога не рабіць. Ёсць такія, каго задавальняе статус беспрацоўнага.

У параўнанні з Беларуссю, беспрацоўны атрымлівае большую дапамогу ад дзяржавы. Памер яе залежыць ад таго, ці працаваў ты раней. Я атрымліваю 350 літ (ці 100 еўра).

Разам з дапамогай міжнароднай каталіцкай арганізацыі Caritas мой штомесячны бюджэт складаецца з 900 літаў (260 еўра).

Каб мне працаваць па спецыяльнасці настаўнікам геаграфіі, трэба вывучыць мову, здаць на катэгорыю. Але пакольні, як я ўжо казаў, не збіраюся тут заставацца, мову я асабліва не вучу. Хіба што па зборніку 500 самых галоўных слоў. Ды слухаю літоўскае радыё ў машыне.

– Ты вывучыў 500 галоўных літоўскіх слоў?

– У параўнанні з Элачкай-людаедкай, я вундэркінд. Самае простае – павітацца, запытаць, як прайсці, колькі гэта каштуе, папрасіць рахунак, агледзець у меню і адрозніць, дзе свініна, дзе ялавічына, я змагу.

– Ці хапае табе грошай на жыццё?

– Тут лягчэй выжываць, чым у Беларусі з фінансавага боку, у побытавым плане. За горадам можна танна зняць жыллё. Шмат кватэр, за якія не трэба плаціць арэнду, – толькі камунальныя.

Чалавек, які атрымлівае мінімальны заробак, можа набыць сабе машыну – хай сабе і калымагу – за 200-300 еўра.

Не сакрэт, што шмат якія прадукты

*(Заканчэнне на стар. 5)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# КАМУ НА РУКУ "КАМЕРЦЫЯЛІЗАЦЫЯ"?

***"У Беларусі непрыватызаванае грамадзянамі жыллё будуць пераводзіць у камерцыйнае", — заявіў міністр жыллёва-камунальнай гаспадаркі Андрэй Шорэц, адказваючы на пытанні дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў у час паседжання сесіі 17 мая. Пры гэтым міністр адзначыў, што праект указа аб пераводзе жылых памяшканняў, прадастаўленых грамадзянам па дагаворах найму, у разрад камерцыйных ужо распрацаваны, узгоднены і рыхтуецца для накіравання прэзідэнту.***

Выслухаўшы дадзены адказ, "народныя абраннікі" нават і вухам не павялі і не задумаліся — а для чаго гэта робіцца, ці закранаюцца тут інтарэсы беларускіх грамадзян. Бо зусім нядаўна, 2 сакавіка 2013 года, уступіў у сілу новы Жыллёвы кодэкс, які ўжо прадугледжвае ўвядзенне платы за карыстанне пямяшканнем дзяржаўнага жыллёвага фонду.

А сапраўды, з якой нагоды рыхтуецца новы указ, і што ён прынясе беларускім грамадзянам? Бо яшчэ не паспелі высахнуць чарнілы пасля падпісання і ўступлення ў сілу новага Жыллёвага кодэкса, а ўжо прымаюцца рашэнні, якія не адпавядаюць яго палажэнням.




На сёння ў нашай краіне налічваецца 392 тысячы непрыватызаваных кватэр, што складае каля 14% ад агульнай колькасці жылля. Частка з іх — гэта кватэры непрыватызаваныя грамадзянамі па розных прычынах, калі кошт прыватызацыі быў мінімальны. Астатнія — гэта кватэры, пабудаваныя напрыканцы 20-га і ў 21-ым стагоддзі, калі правілы прыватызацыі былі зменены.

Гісторыя пераменаў і рэформаў у жыллёвай сферы распачалася ў 1991-92 гадах, з часоў падрыхтоўкі і ўведзення ў дзеянне закона аб прыватызацыі.

Да 1999 года ў Беларусі было прыватызавана каля 1 млн. кватэр. Прыватызацыя жыллёвага фонду дазволіла стварыць уласніка, забяспечыла фармаванне другаснага рынку жылля, паслужыла асноўным фактарам увядзення жылля ў абарот як тавара.

У той жа час, прыватызацыя не змагла стаць той чаканай рэсурснай базай, што неабходна была для павелічэння жыллёвага фонду краіны, як гэта планавала беларускае кіраўніцтва. Дазволіўшы прыватызацыю каля мільёна кватэр, дзяржава атрымала ад гэтага мінімальную колькасць сродкаў, якіх хапіла на будаўніцтва ўсяго толькі 1100 новых.

У першую чаргу гэта было звязана з інфляцыйнымі працэсамі ў эканоміцы краіны. Бо на працягу 90-х гадоў прыватызацыя жылля, пабудаванага за савецкім часам і ў першыя гады незалежнасці, стабільна праводзілася ў коштах 1991 года, і сродкі, што паступалі ад прыватызацыі, абясцэньваліся.

Згодна новага беларускага заканадаўства прыватызацыя жылля можа адбывацца толькі на платнай аснове, у коштах, праіндэксаваных да сучасных рэаліяў у сферы будаўніцтва з улікам тэрмінаў амартызацыі.

У многіх суседніх краінах постсавецкай прасторы, напрыклад, у Расіі, прыватызацыя да гэтай пары адбываецца на безкаштоўнай аснове.

Для прыватызацыі жылля беларускія ўлады дазволілі выкарыстоўваць атрыманыя і своечасова перарэгістраваныя чэкі "Жыллё". Але вялікай фінансавай нагрузкі гэтыя чэкі ўжо не нясуць, таму яны мала паўплываюць на кошты кватэр. Ды і маюць іх менш паловы жыхароў непрыватызаваных кватэр.

Прыватызацыю ў Беларусі дазваляецца праводзіць у растэрміноўку працягласцю да 40 год, але першасны прыватызацыйны разавы ўнёсак на працягу года пасля афармлення дакументаў на прыватызацыю павінен адпавядаць 10% ад кошту кватэры. Што для грамадзян, якія пражываюць у дамах, пабудаваных у апошнія дзесяцігоддзі мінулага стагоддзя, будзе раўняцца ў эквіваленце прыкладна 1,5 тыс. долараў. Для тых, хто пражывае ў больш новых дамах, памер першаснага ўнёску з разліку за дзвюхпакаёвую кватэру ўзрасце на 0,5-1,0 тыс. долараў.

Для грамадзян, якія на працягу года пасля падпісання прэзідэнтам указа аб пераводзе непрыватызаванага жылля ў камерцыйнае, не прымуць рашэнне аб афармленні дакументаў на прыватызацыю, кожны месяц будзе налічвацца арэндная плата за карыстанне ў памеры каля 50% ад рынкавага кошту арэнды жылля. Што, у залежнасці ад населенага пункту, будзе складаць ад 50 да 170 долараў. У іншым выпадку кватэры будуць пераводзіцца ў статус сацыяльных з забаронай далейшай прыватызацыі.

*(Заканчэнне на стар. 5)*

# АЛЕГ МЯЦЕЛІЦА: «У ЛІТВЕ ЛЯГЧЭЙ ВЫЖЫВАЦЬ, ЧЫМ У БЕЛАРУСІ»

*(Заканч. Пачатак на стар. 2, 3)*

ў Літве танней, чым у Беларусі. У сэкандах можна купіць вопратку – усё па тры літы. Дарэчы, сэканды адрозніваюцца ад беларускіх. Тут можна ўсё знайсці: добрае паліто, капялюш, пасцельную бялізну – шмат ёсць фірмовых рэчаў добрай якасці.

З харчовых запасаў у мяне дома амаль ўсё беларускае: бульба, буракі, цыбуля, варэнне, закаткі, нават тушонка з каніны, яблыкі, згушчонка. З радзімы, бывае, перадаюць хлеб і сала таксама.

Увогуле мне пашанцавала, і неабходнасці здымаць жыллё ў мяне няма. Маім домам у Вільні стала кватэра сябра-беларуса.

– Сутыкнуўшыся на ўласным вопыце з літоўскай медыцынай, што цябе ўразіла?

– Не ведаю, ці магу я быць аб’ектыўным, бо ў Беларусі ў мяне такіх сур’ёзных праблем са здароўем не было.

Выклік «хуткай», цяжкі стан, аперацыя… Я не мог хадзіць.

Аперацыю мне рабіў загадчык аддзялення – адзін з самых лепшых хірургаў у бальніцы. Я думаю, што ў Беларусі няпроста было б прабіцца да спецыяліста такога ўзроўню.

Як і ў нас, у Літве прынята аддзячыць доктара і медсястрычку. Заўважу, што ніхто гэтага не патрабуе.

Я ляжаў ў двухмясцовай палаце ў вельмі прыстойных умовах, з прыбіральняй і душам. Ад мяне ніхто не патрабаваў ваты, бінтоў, шпрыцоў, свайго мыла і ручніка. Кармілі добра. Тэмпературу мерылі лазерным прыстасаваннем, якое медсястрычка проста падносіла да ілба.

Пасля аперацыі тут абавязкова прадугледжана рэабілітацыя. Цябе адпраўляюць у санаторый за кошт медстрахоўкі. Я патрапіў на адзін з лепшых курортаў Літвы – Друскінінкай.

Пасля наглядаюся ў доктара ў паліклініцы. Чэргаў няма, запісацца на прыём можна па імэйлу.

– Чым ты плануеш заняцца па вяртанні ў Беларусь?

– Мая апазійная дзейнасць – гэта не праца, а тое, чаго патрабуе мае сумленне. Імкненне не прайсці міма несправядлівасці, спроба змяніць да лепшага свет для будучыні сваіх дзяцей, для краіны. Безумоўна, па вяртанні я буду праяўляць актыўную грамадзянскую пазіцыю. І тое, што магу, буду рабіць, каб Беларусь мянялася ў лепшы бок.

Я не кажу, што збіраюся рыхтаваць нейкае паўстанне альбо рэвалюцыю. Як і раней, буду на кожным кроку змагацца за праўду. Збіраюся ўдзельнічаць у мясцовых выбарах. На маю думку, не варта ісці на выбары толькі з лозунгам «Жыве Беларусь!». Я вылучуся, калі мне будзе што сказаць пра працоўныя месцы, пра бюджэт, пра паляпшэнне сітуацыі ў ахове здароўя, адукацыі –пра простыя рэчы, якія зразумелыя кожнаму.

***Таццяна Гусева, “Салідарнасць”***

## КАМУ НА РУКУ “КАМЕРЦЫЯЛІЗАЦЫЯ”?

*(Заканч. Пачатак на стар. 4)*

Такім чынам беларускія ўлады, прымушаючы сваіх грамадзян паўторна аплочваць пабудавнае за іх жа кошт жыллё, імкнуцца вырашыць пытанне забеспячэння бюджэтнага фінансавання сферы будаўніцтва, куды гэтыя сродкі павінны накіроўвацца згодна беларускага заканадаўства. А гэта трыліёны беларускіх рублёў, якія часткова будуць расходаваны на будаўніцтва жылля “патрэбным” людзям, часткова будуць раскрадзены, як гэта было ў мінулыя гады.

Напрыклад, толькі ў 2010 годзе ў сферы будаўніцтва, па заключэннях прадстаўнікоў праваахоўных структур, было скрадзена каля 730 мільярдаў рублёў бюджэтных сродкаў, што на той час пераўзыходзіла агульны кошт зданай ў гэты год у эксплуатацыю “Мінск-Арэны”, або раўнялася кошту 60 тыпавых панэльных шматкватэрных дамоў у сталіцы…

Дык што, можа “народныя абраннікі” не ведаюць аб гэтых фактах? Ведаюць, ды маўчаць, бо спадзяюцца — можа і ім штосьці перападзе.

Што яшчэ прыдумаюць у хуткім часе беларускія чыноўнікі, каб працягнуць рабаўніцтва свайго народа? Пажывём, пабачым…

***Рыгор Кастусёў.***

## БЕЛЫНИЧСКИЙ БАНДИТ



Во второй половине дня во вторник, 28 мая, недалеко от деревни Приборки Березинского района 51-летний мужчина, которого подвозил 37-летний минчанин на «Субару», попытался завладеть машиной. Как сообщили БЕЛТА представители МВД Беларуси, минчанин обратился в милицию в 15-00.

Мужчина сначала пригрозил автовладельцу двумя пистолетами, а затем, получив отказ, выстрелил в него. В результате чего минчанин был ранен в руку и ноги. По его словам, после этого преступник спешно скрылся в лесном массиве.

Сотрудники милиции объявили план «Сирена», в ходе которого и был задержан житель городского поселка Белыничи, индивидуальный предприниматель, ранее судимый за хулиганство.

Управление Следственного комитета по Минской области возбудило уголовное дело в отношении этого ранее судимого белыничанина 1962 года рождения, который стрелял в минчанина.

Житель Белыничей подозревается в совершении преступления, предусмотренного ч.3 ст.207 (разбой, совершенный с целью завладения имуществом в особо крупном размере) УК РБ.

Проводится расследование.

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# МАЦІ РОДНАЯ, МАЦІ-КРАІНА! НЕ УСЦІШЫЦЦА ГЭТАКІ БОЛЬ…

***Гэтыя словы Максіма Багдановіча заўсёды прыходзяць на думку, калі ўспамінаю Першы з'езд беларусаў света. Падзея гэта адбылася два дзесяцігоддзя назад, 8 – 10 ліпеня 1993 года ў Мінску.***

У той час, па запрашэнню згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", мне пасчасціла ўдзельнічаць у Вялікім Сходу беларусаў.

Першы з'езд беларусаў пачаў работу ў Дзяржаўным акадэмічным Вялікім тэатры Беларусі пад мелодыю Багдановічавай "Пагоні". Франтон тэатра ўпрыгожвалі словы класіка: "На сход, на ўсенародны сход!" На сцэне тэатра і на значках, якія атрымалі дэлегаты, была эмблема з'езда – вобраз Святой Еўфрасінні Полацкай.

Адкрыў з'езд пісьменнік Васіль Быкаў. Ён сказаў наступныя словы: "Будаваць новую беларускую дзяржаву можна толькі ўсім разам – і тым, хто жыве на сваёй беларускай зямлі, і тым, хто далёка, але чыё сэрца баліць несціхаемым болем, імя якому – Беларусь!" З'езд віталі Станіслаў Шушкевіч і Ніл Гілевіч. З дакладам "Беларуская ідэя і адбудова беларускай дзяржаўнасці" выступіў акадэмік Радзім Гарэцкі. Таксама быў заслуханы даклад ад заходняй дыяспары, з якім выступіў Янка Запруднік (ЗША). Потым была справаздача аб рабоце аб'яднання беларусаў свету "Бацькаўшчына", выступленні дэлегатаў і вялікі канцэрт лепшых калектываў рэспублікі.

На другі дзень работа з'езда праходзіла па тэматычных секцыях. Мне давялося прысутнічаць на сустрэчы з прадстаўнікамі беларускай дыяспары, якая адбылася ў памяшканні тэатра юнага гледача. Кіравалі сустрэчай два вядомых беларускіх навукоўца: прафесар Валянцін Грыцкевіч з Санкт-Пецярбургу і прафесар Янка Запруднік з Нью-Йорка. На сустрэчы выступалі прадстаўнікі з Расіі, Украіны, Польшчы, ЗША, Кіргізтана, Балтыйскіх рэспублік і іншыя. Выступаючыя з вялікай зацікаўленнасцю распавядалі пра дзейнасць беларускай дыяспры ў сваіх краінах, падымалі пытанні па самых вострых праблемах беларускай нацыянальнай палітыкі, эканомікі, культуры.



Асабіста на мяне гэты форум аказаў вельмі вялікі ўплыў, засталося шмат уражанняў, успамінаў. Слухаючы прамовы ўдзельнікаў з'езда, адчуваў з якой вялікай заклапочанасцю яны гаварылі аб далейшым лёсе нашай Радзімы, уносілі прапановы, абвастралі пытанні дзеля духоўнага, дзяржаўнага і эканамічнага адраджэння Бацькаўшчыны.

Уразіла мяне наша беларуская мова, на якой размаўлялі многія замежныя дэлегаты, бо адрознівалася ад тутэйшай сваёй мілагучнасцю, больш мяккім гучаннем. З вуснаў дэлегатаў заўсёды гучалі словы "спадар і спадарыня", калі трэба было звярнуцца адзін да другога. І пры гэтым усе, як маладыя, так і старыя людзі, называлі іншых толькі па імя.

Мне асабіста давялося размаўляць з многімі дэлегатамі, у тым ліку з беларусамі з Канады, Аўстраліі, Польшчы, Украіны і многімі іншымі. Усе яны былі вельмі высокай культуры і адукацыі, вызначаліся моцнай нацыянальнай самасвядомасцю. З гэтых размоў даведаўся, як жывуць беларусы ў іншых краінах, як берагуць свае традыцыі, культуру, мову і галоўнае – беларускую духоўнасць. Напрыклад, высветлілася, што беларускія нацыянальныя асяродкі з навукова-культурнымі інстытутамі, бібліятэкамі, музеямі, рэлігійнымі ўстановамі працуюць у многіх замежных дзяржавах. Беларускія факультэты і аддзяленні дзейнічаюць у больш як дзесяці замежных універсітэтах. Шмат дзе выходзяць беларускія газеты і часопісы.

Вельмі здзівіла размова са святаром Якавам Гутманам з Нью-Йорка. Ён паведаміў, што ў Злучаных Штатах у яго ёсць знаёмы навуковец, які працуе над доктарскай дысертацыяй пад назвай "Яўрэі Шклова". І такіх сустрэч было шмат. Пра ўсе расказаць немагчыма.

У гэты дзень я таксама прысутнічаў на адкрыцці мемарыяльнай дошкі беларускаму пісьменніку і навукоўцу Максіму Гарэцкаму. Урачыстасць адбылася каля ўвахода ў былы будынак інстытута Беларускай культуры – Інбелкульта /Мінск, Рэвалюцыйная, дом 15/, які дзейнічаў ў Мінску ў 30-я гады і быў цэнтрам беларускага абуджэння і навукі.

Безумоўна, уражанняў было шмат. Але найбольш усяго мяне ўразіў дэлегат з Польшчы. Ён распавядаў, што ў горадзе Гайнаўцы на Беласточчыне працуе беларускі музей. Залы музейнай экспазіцыі складаюць каля

*(Заканчэнне на стар. 7)*

## МАЦІ РОДНАЯ, МАЦІ-КРАІНА! НЕ УСЦІШЫЦЦА ГЭТАКІ БОЛЬ…

*(Заканч. Пачатак на стар. 6)*

двух тысяч квадратных метраў. Пры музеі знаходзіцца гатэль, які заўсёды прымае жадаючых наведаць гэты культурны асяродак. У горадзе існуе беларуская гімназія і беларускі праваслаўны храм. Сваю прамову гэты беларус з Польшчы закончыў наступнымі словамі, якія вельмі кранулі душэўнае пачуццё: “Сёняшні з’езд не дабавіць зарплаты, не палепшыць здароўя, не вырашыць іншыя праблемы, але абавязкова абудзіць беларусаў, менавіта тых хто яшчэ спіць, прысароміць лянівых, дапаможа тым хто стаміўся і ў роспачы і сонца адраджэння павінна ўзысці над нашай Айчынай!”

На прыканцы форума я бачыў радасць на тварах дэлегатаў. Калі пасля заканчэння святочнага канцэрта ўсе выходзілі з памяшкання тэатра, на плошчы з’явіліся агні салюта, у многіх дэлегатаў ў руцэ гарэлі свячі, на паветры луналі старажытныя беларускія сцягі, герб “Пагоня”, эмблема з’езда – вобраз Святой Ефрасінні Полацкай і ўзнёсла гучалі неўмiручыя словы Янкі Купалы: “ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!”

Прайшлі гады, але словы, якія прагучалі на з’ездзе, па-ранейшаму застаюцца вельмі актуальнымі для беларусаў і ў сучаснасці. Асабіста я па-ранейшаму спадзяюся і веру, што “ **…Не усцішыцца гэтакі боль…” і “ сонца адраджэння, хай і паступова, але ўзыходзіць над нашай Айчынай!”**

***Аляксандр Грудзіна, дэлегат з’езда ад Магілёўскай вобласці.***



# ЗАРПЛАТА ПЕДАГОГА ВСЁ БОЛЕЕ УБОГА

***В интернете обсуждается новость. Педагоги Дании протестуют против низких заработков. Удивляет не то, что протестуют, а то, что их не устраивает зарплата в 5 тысяч евро. Что же тогда про нас бедных говорить, не получающих и 300 евро?***




Специально заинтересовавшись положением европейских педагогов, полезла в тот же интернет. Вот одна из интереснейших подробностей. В Евросоюзе, как и в Беларуси, большинство школьных учителей — женщины. Есть, конечно, и представители сильного пола. Только у нас они в основном работают на руководящих должностях (директора, завучи, заведующие РОО). А мужчин-педагогов в белорусских школах можно пересчитать по пальцам. В Европе же это в порядке вещей.

Вот что можно узнать из последних данных статистической службы Евросоюза. Что совсем необычно, так это то, что немалое количество мужчин имеется в начальных школах, что в Беларуси огромная редкость. Например, в Испании и Люксембурге — это каждый четвёртый педагог начальной школы. А в Дании, где протестовали учителя, мужчин в сфере начального образования — 31%.

В среднем образовании Евросоюза приоритет женщин ещё меньше. В целом среди учителей, преподающих в средних школах ЕС, количество дам достигает 59%. Характерно, что больше всего их в бывших советских республиках — в Латвии (80%) и Литве (79%). А вот в Германии, Испании, Люксембурге и Нидерландах (по 50%), на Мальте (43%). Каждый второй учитель в большинстве европейских школ — мужчина. Значит, работа является престижной, а зарплата — достойной.

Пока датские учителя бастуют из-за слишком низкой, по их мнению, зарплаты в 5000 евро, белорусские педагоги не спешат качать права. Наверное, они считают, что жить так, как в Европе, им всё равно не светит. Но белорусы отстали уже даже от России! Месяц назад Министерство образования РФ официально сообщило, что в I квартале 2013 года средняя зарплата школьного учителя в России составила 26 тысяч рублей, или 95% от средней зарплаты по стране (27 314 рублей). А рубеж в 100% от средней зарплаты по региону преодолели зарплаты школьных педагогов в 48 субъектах РФ. Это, к примеру, зарплаты у учителей в Ямало-Ненецком автономном округе (69 777 рублей, или 111,3% от средней по региону), в Москве (57 907 рублей, или 106,5%), Магаданской области (55 070 рублей, или 102,3%) и в ряде других регионов. Меньше всего получают школьные учителя в Карачаево-Черкесии (15 155 рублей), Калмыкии (15 377 рублей) и Северной Осетии (16 038 рублей). По российским меркам это называется «меньше всего», но всё познаётся в сравнении.

*(Окончание на стр. 8)*

# ЗАРПЛАТА ПЕДАГОГА ВСЁ БОЛЕЕ УБОГА

*(Оконч. Начало на стр. 7)*

Про среднюю зарплату педагогов в Беларуси трудно сказать что-либо хорошее. В конце прошлого года она занимала предпоследнее место среди всех заработков в отраслях народного хозяйства страны. Из года в год признаётся, что необходимо принимать срочные меры по исправлению ситуации, но дальше этого признания дело не идёт. Закономерно, что сейчас образование тысячами покидают квалифицированные кадры. Но реакция на повальный побег из школ, мягко говоря, удивляет. Министр образования РБ Сергей Маскевич вообще считает, что «у нас сегодня нет потребности в педагогических кадрах в таком объёме». Так что удерживать учителей, видимо, не считают нужным. А если так, то зачем повышать им зарплату? Потерпят, здесь ведь не Дания.

***Елена ПОЛЯКОВА.***

P.S. Прочитал, и все-таки решил напечатать в газете «Паходня» статью нашего постоянного автора Елены Поляковой о несчастной доле белорусских педагогов и их мизерных зарплатах. Хотя, по моему личному мнению, белорусские учителя во многом сами определяют свою дальнейшую судьбу и отношение к себе со стороны власть имущих – именно учителя составляют основной костяк избирательных комиссий всех уровней в нашей стране, и именно белорусские сеятели «разумного, доброго, вечного» беспрекословно выполняют любые, даже самые идиотские, указания начальства. Не секрет, что именно учителя в нашем Белыничском районе составляют основу про властной "Белой Руси", - так что же мешает уважаемым педагогам отстаивать свои права, ведь вы же сами, образно говоря, партия власти?

Думаю также, что любому человеку, имеющему начальное экономическое образование, очевидно, что учителей в нашем Белыничском районе действительно переизбыток, и что во многих сельских школах в классах сейчас учатся по пять учеников. При этом труженики на ниве образования очень часто жалуются на свою непосильную нагрузку и на «тупых» детей, которых невозможно ничему научить.

Возможно, нашим «бедным» педагогам стоит задаться вопросом - а в «высоком уровне нагрузки» и «неразумных» детях ли проблема? В мое время нагрузка на учителя в школе была выше в разы и, тем не менее, в сельских школах педагоги обеспечивали получение учащимися достойного уровня знаний. Также хочется




напомнить уважаемым педагогам, что в Минске в группе у репетиторов по предмету занимается в среднем пятнадцать человек и практически все они поступают в вузы, «тупых» почему-то нет.

Кстати, на днях разговаривал с преподавателем одного из педагогических вузов нашей страны и та с горечью рассказывала о катастрофически низком уровне студентов, которые сейчас обучаются в этом вузе. Как говорится, круг замкнулся…

Газета «Паходня» приглашает педагогов к дискуссии на тему низкой заработной платы и высокой нагрузки на учителей в школах Белыничского района. Мы обязательно напечатаем ваше мнение на страницах нашего издания.

***(Примечание издателя).***

## У ААТ "НОВАЯ ДРУЦЬ" ЗМЯНІЎСЯ ДЫРЭКТАР

Напрыканцы траўня вызвалены ад займаемай пасады дырэктар ААТ "Новая Друць" Уладзімір Канавалаў. Нагадаем чытачам, што, згодна меркавання раённых і абласных чыноўнікаў, менавіта "Новая Друць" з'яўляецца найбольш паспяховай гаспадаркай Бялыніцкага раёна.

Абавязкі дырэктара гаспадаркі зараз выконвае Вадзім Емельянаў, які, хутчэй за ўсё, будзе зацверджаны кіраўніцтвам аграхолдынга "Мачулішчы" і застанецца на пасадзе кіраўніка ААТ Новая Друць" пастаянна.

Уладзімір Канавалаў застаўся працаваць у ААТ "Новая Друць" на пасадзе намесніка дырэктара. Па нашых звестках, у Уладзіміра Вінідзіктавіча склаліся не вельмі добрыя адносіны з генеральным дырэктарам аграхолдынга "Мачулішчы" Уладзімірам Саўчанка, што і паслужыла адной з прычын адстаўкі з пасады дырэктара. Па чутках, яшчэ ў мінулым годзе, падчас наведвання "Новай Друці", спадар Саўчанка заявіў Уладзіміру Канавалаву, што той на пасадзе дырэктара прадпрыемства працаваць не будзе.

Нагадаем, што Уладзімір Канавалаў быў прызначаны дырэктарам ААТ "Новая Друць" восенню 2008 года.

***Сяргей Семяновіч.***

## ВАЛЕРЫЙ ВУСІК ПРАЦЯГВАЕ ЗМАГАЦЦА ЗА СПРАВЯДЛІВАСЦЬ

*(Заканч. пачатак на стар. 1)*

аб яе выніках і прынятым рашэнні палкоўнік Юрый Сіманаў абяцае праінфармаваць Валерыя Вусіка.

Нагадаем, што былы старшыня СВК "Лебедзянка" Пётр Бялоў 19 красавіка быў не пераабраны на сваю пасаду. СВК "Лебедзянка" узначаліў былы старшыня ліквідаванага Эсьмонскага сельсавета Алег Салавей. Аднак спадар Бялоў па-ранейшаму працуе ў СВК "Лебедзянка", з'яўляючыся намеснікам старшыні праўлення гэтай гаспадаркі.

***Багдан Іваноў.***

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем выдаўца газеты.

Адрас рэдакцыі: 213173, Бялыніцкі раён, аг-к Вялікая Машчаніца, вул. Савецкая, д. 4. Тэл. 8 (02232) 37-365. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Наклад 299 асобнікаў. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 03.06. 2013 г. у 11-00.